

# ГРУНВАЛЬД

*Grünwald*

ДЛЯ ВНУТРЕННЕГО КАРЫСТАНЬНЯ

СТУДЗЕНЬ 1990 г | НАВІНЫ БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭНЬНЯ | № 1

## ЗЬМЕСТ





## ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА СЬЦЯГА

СТАР. 6




Посьпех беларускага нацыянальнага адраджэньня абумоўлены прагрэсам рэальнай перабудовы ў маштабах усёй краіны, посьпехам гарбачоўскіх рэформаў. Алё ёсьць у нашай адраджэнцкай справе аспэкт, дзе рэальныя зрухі найменш відавочныя, дзе партбюракратыі ўдаецца ўтрымліваць "старыя добрыя" застойныя традыцыі. Гаворка тут пра адносіны да беларускай эміграцыі і, перад усім, да той яе найбольш актыўнай і сьвядомай часткі, якую можна акрэсьліць тэрмінам эміграцыі палітычнай.

Універсальны рэцэпт дасягненьня посьпеху для амаль кожнага нацыянальнага руху — гарманічнае супрацоўніцтва паміж мясцовымі сіламі і эміграцыяй. Пры гэтым, даволі часта палітычная і іншая дзейнасьць эміграцыі мае вялікі, а нават і вырашальны ўплыў на ход рэвалюцыйнай барацьбы. Класічны прыклад тут дзейнасьць Ў. І. Леніна і партыі бальшавікоў у перыяд барацьбы з царызмам. Ленін вярнуўся на Радзіму пасьля амаль 18-гадовай эміграцыі і праз няпоўныя 6 месяцаў мог сьвяткаваць са сваімі сябрамі перамогу ў самай магутнай з супярэчлівых рэвалюцый XX стагодзьдзя. Мала хто ведае, што менавіта эмігранцкія дасьведчаньні Леніна (амаль 14 з 18 гадоў ён пражыў у Швайцарыі, краіне вядомай усяму сьвету сваім найбольш дэмакратычным і эфектыўным вырашэньнем нацыянальнага пытаньня) адбіліся непасрэдна на паслярэвалюцыйных лёсах беларусаў. Беларусізацыя, якая ажыцьцяўлялася ў рэспубліцы ў 20-я гады і была складовай часткай так званай "ленінскай нацыянальнай палітыкі", праводзілася з улікамі швайцарскага вопыту і вельмі нагадвала швайцарскую мадэль кантанальнай аўтаноміі. І зусім сьвежы прыклад. Цяжка сказаць, ці была б апошняя перамога польскай "Салідарнасьці" на выбарах настолькі абсалютная і безумоўная, калі б не відавочная дапамога, ды і непасрэдны ўдзел антыкамуністычнай эміграцыі ў перадвыбарчай кампаніі. Эміграцыя арганізавала "Салідарнасьці" значную фінансавую падтрымку. Яна накіравала на адрас грамадскіх выбарчых камітэтаў "Салідарнасьці" сотні сучасных друкарскіх машын, featuring камп"ютарнай тэхнікі, сотні тон паперы і т.п. Напярэдадні дня выбараў у Варшаву прыбыў сам Зьбігнеў Бжэзінскі, якога адразу амаль усе дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, як добра адладжаны хор, пачалі вінаваціць ва ўмяшаньні ва ўнутраныя польскія справы. Пачалася чарговая маштабная ідэалагічная кампанія супроць падрыўных дзеяньняў амерыканскага імперыялізму. Але было ўжо позна.

Якую ж ролю можа адыграць у нашым адраджэнцкім руху беларуская эміграцыя? І ці здольная яна ўзваліць на свае плечы цяжар актыўнага ўдзелу ў беларускім нацыянальным адраджэньні? Ды і ці здольныя мы, каб без засьцярог, як роўных, прыняць нашых суайчыньнікаў за мяжой у якасьці паўнапраўных удзельнікаў нашай беларускай перабудовы? Відаць, з гэтага апошняга пытаньня і трэба пачаць высьвятленьне праблемы. Перш за ўсё нам самім трэба пераадолець уплывы спадчыны сталінскай шматгадовай індактрынацыі, пераадолець недавер, падазронасьць і іншыя духоўныя стэрэатыпы ў адносінах да беларусаў замежжа. Праблема гэтая не такая простая, як магло б здавацца з першага погляду. Тут недастаткова нейкай гучнай дэкларацыйнай заявы. Неабходна ўнутранае пераасэнсаваньне укаранёных з дапамогаю самой сістэмы нашага жыцьця стэрэатыпаў. Трэба пераасэнсаваць нават такія "сьвятыя" ісьціны, як лёс беларусаў у гады другой сусьветнай вайны, зразумець, што пераважная большасьць з так званых "саўдзельнікаў у злачынствах" на самой справе зьяўляюцца такімі самымі ахвярамі спачатку сталінізму, а затым фашызму, як і тыя, што ляжаць тысячамі ў курапатах і хатынях. Трэба зразумець, што тысячы беларусаў пайшлі служыць да немцаў у надзеі, што новы парадак, які б цяжкі ён ня быў, будзе лепшы ад нялюдскага сталінізму, што сваёй крывёй і самаадданасьцю можна будзе забясьпечыць нармальнае жыцьцё і нейкую, няхай абмежаваную, але свабоду свайму народу. Адказнасьць за тое, што дзесяткі, а нават сотні тысяч беларусаў пайшлі ў БКА (беларускую краёвую самаабарону) нясе перш за усё сталінізм, які ў передваенныя гады разгарнуў сапраўдны антыбеларускі генацыд. У той час загінула каля 2 млн. наших землякоў. Дарэчы, галоўная канцэпцыя беларускага ўдзелу ў II сусьветнай вайне, сфармуляваная ў 1949—1950 гг. самім Цанавам у яго "капітальнай" двухтомнай працы, прысьвечанай гэтаму пытаньню, застаецца практычна па сёньняшні дзень у нязьменным выглядзе на "ўзбраеньні нашай гістарычнай навукі". Берыеўскі намесьнік і сёньня, больш як 30 гадоў пасьля сваёй ганебнай сьмерці, застаецца галоўным аўтарытэтам па "беларускіх буржуазных нацыяналістах", а партыйныя прапагандысты з ударнай групы С. Паўлава бяз лішняга шуму актыўна карыстаюцца ягонай інфармацыяй.

Для абмежаванай групы гісторыкаў ды іншых інтэлектуалаў, што мелі шагчымасьць пазнаёміцца з сапраўднымі аб"ектыўнымі дакументамі, якія датычаць ваенных лёсаў беларускага народа, ілжывасьць цанаваўскіх канцэпцый відавочная. Але для тысяч радавых удзельнікаў Беларускага Народнага Фронту спробы пераасэнсаваньня гісторыі мінулай вайны пакуль ні што іншае, як намаганьні кінуць цень на сутнасць гераічнай барацьбы беларускага народа супроць нямецкафашысцкіх захопнікаў. Нейтралізацыя падобнай шматгадовай бясприкладнай індактрынацыі магчымая толькі з дапамогай шырокай растлумачальнай кампаніі. Мае значэньне тут і пазіцыя саміх эмігрантаў, якія павінны, на нашу думку, выказваць больш прыхільнасьці і разуменьня для мэтаў і задач БНФ "Адраджэньне". Іх шчырасьць і самаадданасьць павінны быць відавочныя ў адраджэнцкай дзейнасьці на Бацькаўшчыне.

У той надзвычай цяжкай сітуацыі беларускага адраджэнцкага руху, калі паасобныя элементы нацыянальнай культуры і нацыянальнай самасьвядомасьці трэба адбудоўваць амаль што нанова, роля беларускай эміграцыі можа і павінна быць значная. Менавіта там, на эміграцыі, захавалася ў нескажоным сталінскай рэформай 1933 года выглядзе беларуская мова, там існуе беларускамоўная праваслаўная царква, дзейнічае беларуская вуніяцкая царква са сваім вядомым Лонданскім цэнтрам. Там у рамках даследаваньняў Нью-Ёркскага беларускага інстытута навукі і мастацтва распрацаваны шматлікія навуковыя і грамадска-палітычныя тэмы, што ў нас лічыліся і, нягледзячы на перабудову, лічацца сёння табу. Парадаксальна, але факт: ня мы, а нашы суайчыньнікі на Захадзе выказалі надзвычайную адпорнасьць на дзеяньне шматлікіх аб'ектыўных і суб'ектыўных асіміляцыйных фактараў. З упорам маньякаў арганізоўвалі яны на ўсім сьвеце нядзельныя беларускія школы для сваіх дзяцей, рабілі ўсё магчымае, каб і на чужыне беларуская мова не загінула, каб мела сваю будучыню ў неспрыяльных эміграцыйных варунках. І, напэўна, не ў аднаго мяне балела душа, калі бачыў як дзеці беларускіх эмігрантаў, якія ўпершыню крочылі на зямлю сваіх бацькоў, зьвярталіся да нас на чыстай, нескажонай русіцызмамі беларускай мове, а мы, з цяжкасьцю падбіраючы паасобныя беларускія словы, намагаліся неяк падтрымліваць зь імі размову. Яшчэ крок на шляху сталінска-брэжнеўскага сацыялістычнага будаўніцтва і мова нашага народа магла б захавацца толькі на эміграцыі. Нездарма, відаць, адзін з маіх сяброў на пытаньне аб разьвіцьці беларускамоўнай сярэдняй адукацыі адказаў: "На сьвеце сёньня існуюць 2 поўныя сярэднія беларускія школы: адна ў Бельску, другая ў Гайнаўцы. Абедзьве ў Польшчы".

Вось чаму толькі асэнсаваўшы глыбіню нашага падзеньня, пачуўшы сапраўдны боль і сорам з прычыны нашай падатлівасьці на грубую русіфікацыю, мы можам зразумець тое месца, якое належыць беларускай эміграцыі ў нашым адраджэньні.

Скарыстаўшы з культурных і іншых дасягненьняў беларускай эміграцыі наш рух можа ня толькі значна ўзбагаціць сябе, але і ашчадзіць шмат часу і чалавечае энергіі ў такім важным перыядзе разьвіцьця беларускага народа. І бадай што самае галоўнае, што эміграцыя магла б даць нам — гэта вопыт і дасьведчаньні функцыянаваньня ў варунках заходняй дэмакратычнай сістэмы. Падобны нерукатворны мост паміж дзьвюма часткамі беларускага народа можа і павінен прынесьці рэальную карысьць справе нацыянальнага адраджэньня беларусаў.

*МІКОЛА ІВАНОЎ*



**Byelorussian-American Association, Inc.**

8 лістапада 1989 г.

Сойму
Беларускага Народнага Фронту
за перабудову
"АДРАДЖЭНЬНЕ"

Паважаныя Спадары!

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне падтрымвае зварот устаноўчага зьезду БНФ да ўсіх народаў сьвету і да беларускай эміграцыі з просьбай аб дапамозе мэдыцынскай тэхнікай і мэдыкамэнтамі, а таксама грашыма, для лячэньня хворых ад чарнобыльскае радыяцыі. Беларусы Амэрыкі гатовыя даць такую дапамогу, але заяўляюць, што будуць перасылаць яе толькі на рукі Беларускага Народнага Фронту і толькі пры ўмове, што далейшае разьмеркаваньне дапамогі будзе праводзіцца з удзелам прадстаўнікоў БНФ.

Камітэт дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, які фармуецца цяпер зь ініцыятывы Архіепіскапа Мікалая, Першагіерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, і ў які ўвайшлі прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў ЗША і Канады, просіць дзеля гэтага падаць адпаведны адрас БНФ і банкавае конта, куды перасылаліся-б апараты, мэдыкамэнты й грошы. Адрас Камітэту тымчасам той самы, што й галоўнае ўправы БАЗА.

Паведамляем таксама, што ў Вашынгтоне нашаму прадстаўніку было сказана, што калі-б была фармальная просьба ад ураду БССР да ўраду ЗША аб дапамозе ахвярам Чарнобыля, дык справа дапамогі магла-б быць куды больш эфэктыўнай. Падобнае сказалі ў Атаве і прадстаўніку Згуртаваньня Беларусаў Канады. Беларусы Амэрыкі й Канады спадзяюцца дзеля гэтага, што ўрад БССР зьвернецца з адпаведнай просьбай да амэрыканскіх і канадзкіх уладаў-- у імя ратаваньня здароўя ахвяраў радыяцыйнае катастрофы.

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне запэўняе таксама, што яно зробіць усе магчымыя захады, каб прыцягнуць да гэтае міласэрнае акцыі дапамогі ахвярам Чарнобыля амэрыканскія дабрадзейныя арганізацыі ды шырэйшыя колы амэрыканскага грамадзтва.

Ад імя галоўнае ўправы БАЗА

З найлепшымі пажаданьнямі

Антон Шукелайць
Старшыня

# TERE, «ГРУНВАЛЬД»!

*С днем рождения, наш дорогой сябра и коллега!*

*Наш журнал от души приветствует Тебя в кругу демократических изданий, которые сегодня выходят в бой за национальное возрождение народов, за попранное человеческое достоинство, за консолидацию всех демократических сил. Тревога и боль белорусского народа близки и понятны нам. Белоруссия в беде! Прекрасные земли ее отравлены, красивый древний язык едва слышен, сама душа народа перестает ощущать себя живой. Это — общее наше горе, и надежда на возрождение у нас одна. Пусть же звучит отныне и на эстонской земле свободное белорусское слово, пробуждающее сердца.*

*В этот день, день Твоего рождения, нам приятно вспомнить, что для "Радуги" стремительный путь к свободе слова ознаменован статьей Зенона Позняка "Двуязычие и бюрократизм", опубликованной в апрельском номере 1988 года. Мы помним, какой ошеломляюще смелой казалась она нам тогда и как мы гордились, что она напечатана в нашем журнале. За этим журналом, как за самой страшной крамолой, охотились белорусские реакционеры. В нынешнем январском номере "Радуги" читатель вновь встретится с Зеноном Позняком. Его статья "Вандея-Интер" — это убийственный анализ того черного механизма, который пытаются раскрутить совместно ваши и наши интеры — от партийных аппаратчиков до оболваненных толп. Мы поддерживаем друг друга перед лицом общего зла — и тем сильны. Когда мы писали о Чернобыльской трагедии — с выкладкой чудовищных цифр и фактов, тогда еще недоступных гласности, — это была и наша маленькая тропинка, влившаяся в "Чернобыльский шлях". А статья Василя Быкова в декабрьском номере журнала (1989) — о цензе оседлости, о чувстве хозяина на своей земле — стала большой поддержкой для нас. Мы перепечатали ее из газеты "Московские новости". В разгаре очередной травли прибалтийских республик центральной прессой, науськанной кремлевскими интерами, белорусский писатель сказал свое мудрое веское слово в защиту Эстонии. Сказал именно тогда, когда слово это было необходимо, как глоток воздуха...*

*В журнале печаталась и белорусская проза — повесть Владимира Орлова "И мы возвращались..." Она тоже о самом главном для нас — о возвращении народа к жизни, о возрождении корней.*

*"Радуга" встречалась и со своими коллегами из Белоруссии — с коллективом журнала "Крыница". И мы надеемся, что совсем скоро эта встреча повторится — в Минске, на белорусской земле.*

*Жизнь продолжается, и продолжается наша общая борьба. И нет сегодня прекрасней нашего общего призыва:*

**ЗА ВАШУ И НАШУ СВОБОДУ!**

**АЛЛА КАЛЛАС.**
**Заместитель редактора журналов "Викеркаар" — "Радуга" — по просьбе и от имени коллектива редакции.**

*К ЭТИМ ПОЗДРАВЛЕНИЯМ ОТ ВСЕЙ ДУШИ ПРИСОЕДИНЯЮТСЯ ГАЗЕТЫ "VABA MAA" И "ВЕСТНИК НАРОДНОГО ФРОНТА ЭСТОНИИ". С ДНЕМ РОЖДЕНИЯ, "ГРУНВАЛЬД"!*

# ЗАКОН Эстонской Советской Социалистической Республики

## О НАЦИОНАЛЬНЫХ ПРАВАХ ГРАЖДАН ЭСТОНСКОЙ ССР

Эстонская ССР признает свободное развитие национальной жизнедеятельности и способствует национальному самоосуществлению во всех его демократических и законных формах.

Гарантией национальных прав всех граждан Эстонской ССР может быть лишь правс эстонской нации, как коренной нации Эстонии, на свою этническую территорию и на самоопределение.

При реализации национальных прав граждан Эстонской ССР государство исходит из необходимости объединить усилия эстонцев и всех национальных групп для достижения политического, экономического и культурного суверенитета Эстонии.

**Статья 1.** Эстонская ССР как суверенное демократическое государство гарантирует своим гражданам, независимо от их национальности, равные политические, экономические и социальные права и свободы.

**Статья 2.** Все жители Эстонии, независимо от их национальности и гражданства, обязаны соблюдать Конституцию Эстонской ССР и другие законы республики, уважительно относиться к культуре, обычаям и традициям эстонской и других наций

**Статья 3.** Образованные в Эстонской ССР и зарегистрированные в установленном законом порядке национальные объединения имеют право законодательной инициативы в лице своих республиканских органов.

**Статья 4.** Наряду с развитием эстонской культуры и языка Эстонская ССР создает национальным группам условия для свободного развития их культуры и языка.

Граждане всех национальностей имеют право:

— создавать национальные культурные объединения;

— получать общее образование на эстонском, русском или ином языке в государственных учебных заведениях или через культурные объединения;

— получать среднее специальное, высшее образование и проходить переподготовку на эстонском, русском или ином языке, что обеспечивается государством в соответствии с потребностями Эстонской ССР;

— организовывать распространение информации и культурную жизнь на родном языке, исполнять национальные ритуалы и религиозные обряды;

— общаться с представителями своей национальности за пределами Эстонской ССР, устанавливать через национальные объединения связи с органами и национальными организациями соответствующих национальных государств.

**Статья 5.** Организации и объединения, занимающиеся развитием национальной культуры, имеют наряду с государственной системой право создавать за счет собственных средств культурные учреждения и учебные заведения, образовывать фонды, учреждать премии и стипендии, заниматься предпринимательством и выпускать печатные издания.

Государство оказывает национальным объединениям материальную помощь и поддержку.

Специалистов для культурных потребностей национальных групп готовят в пределах своих возможностей высшие и средние специальные учебные заведения Эстонской ССР на основе договоров, заключаемых с государственными организациями, национальными, культурными объединениями и другими общественными организациями.

**Статья 6.** Национальные культурные и исторические памятники и национальная символика берутся под охрану государства.

**Статья 7.** Гражданин Эстонской ССР имеет право свободного выбора своей национальности в соответствии со своим этническим происхождением. Честь и достоинство каждой нации защищаются государством.

Никого нельзя принуждать к отказу от своей национальности.

**Статья 8.** Любое ущемление национальных чувств другого гражданина запрещается.

Любые действия по утверждению национальной исключительности, национального превосходства или разжиганию национальной вражды наказуемы в судебном порядке.

**Статья 9.** Нормативные акты, необходимые для введения в действие настоящего Закона, принимаются Верховным Советом Эстонской ССР.

**Председатель Президиума Верховного Совета Эстонской ССР**
**А. РЮЙТЕЛЬ**

**Секретарь Президиума Верховного Совета Эстонской ССР**
**А. АЛЬМАНН**

Таллинн, 15 декабря 1989 г.

ЗЯНОН ПАЗЬНЯК

# НАСУПЕРАК РУХУ – «ВАНДЭЯ»

Набліжаюцца выбары ў Вярхоўны Савет Беларускай ССР і ў мясцовыя Саветы народных дэпутатаў. Гэтыя выбары будуць мець вырашальнае значэньне ў жыцьці нашай Рэспублікі. Паўстае пытаньне: ці зможа народ забясьпечыць сваё поўнае ці хаця б пераважнае прадстаўніцтва ў Саветах? На першы погляд, становішча склалася неспрыяльнае. Кіраўнічая партакратыя ў БССР правяла шэраг антыдэмакратычных законаў. Як і раней, у афіцыёзным друку ідзе татальная дэзінфармацыя насельніцтва аб Беларускім Народным Фронце, аб палітычных працэсах у Беларусі. Асабліва дэзінфармаваныя жыхары сельскай мясцовасьці.

Асаблівасьцю беларускага партапарату, ці як яго ахрысьцілі, "вандэі", зьяўляецца адсутнасьць у ім колькі-небудзь прыкметных дэмакратычных плыняў ці нават асобаў. Рэакцыйны фенамен "вандэі" мае сваё тлумачэньне. Ён зыходзіць з бюракратычнай ідэалогіі нацыянальнага нігілізму, чым здавён (з 30-х гадоў) характарызуецца гэтак званая "беларуская" партбюракратыя. Чалавек, які выракся культуры свайго народу, узьненавідзеў мову, спрыяў этнічнаму паміраньню нацыі, такі чалавек не можа мець дэмакратычнага сьветапогляду, не можа быць вольным.

Нацыянальны нігілізм і рэакцыйная аднароднасьць камуністычнай партакратыі на Беларусі самым некарысным чынам адбілася на становішчы ў Рэспубліцы. Партбюракратыя нясе ўсю адказнасьць за паніжэньне і разбурэньне беларускай нацыянальнай культуры, за русіфікацыю грамадства і зьнішчэньне беларускай мовы, за закрыцьцё беларускіх школаў, за знос помнікаў архітэктуры і зьнішчэньне нацыянальнай спадчыны, рэлігіі, традыцыйнай народнай маралі, за дэгуманізацыю грамадскіх узаемадачынененьняў.

У прыбалтыйскіх рэспубліках і нават у традыцыйна кансерватыўнай Украіне, у кіраўнічым партыйным апараце выяўляюцца пэўныя сілы, якія спрыяюць адраджэньню нацыі, адмаўляюць метады і погляды наменклатурных артадоксаў, рэальна садзейнічаюць галоснасьці і дэмакратызацыі. У выніку закладваюцца асновы для эвалюцыі стваральных кансалідуючых працэсаў. Бо знойдзены сьферы ўзаемадачыненьняў паміж нават супрацьлеглымі палітычнымі сіламі (у дадзеным выпадку паміж кампартыяй і грамадскімі рухамі).

Нічога падобнага не назіраецца ў Беларусі. Сімптаматычна, што, калі 19-га кастрычніка 1988 года было аб"яўлена аб утварэньні Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту, камуністычная наменклатура распачала шалёнае цкаваньне ўсіх дэмакратычных сілаў, асабліва інтэлігенцыі. Нам ня трэба ніякі народны фронт, — чулася з усіх афіцыйных трыбун і розных "комаў". Пасыпаліся "лісты абураных працоўных" і паднялася хваля арганізаванага "народнага гневу". І гэта ў той час, калі новаствораны Аргкамітэт БНФ не сказаў яшчэ ніводнага слова пра свае мэты, пра задачы дзейнасьці. Ня трэба нічога! Такі быў сэнс гэтага наменклатурнага голасу. "Мартыралог"? — Ня трэба! "Нам с вами не по пути!" — сьпяшаліся перакрычаць усіх прыгрэтыя апаратам дочкі двух рэпрэсаваных у 30-я гады кіраўнікоў БССР, ахайваючы ўтварэньне таварыства памяці ахвяраў сталінізму "Мартыралог Беларусі". Кульмінацыі гэтая кампанія дасягнула 30 кастрычніка 1988 г., калі супроць мірных людзей, што ў дзень "Дзядоў" ішлі на могілкі з кветкамі, "кінулі" тры тысячы міліцянераў, сьпецвойскі, вадамёты, "чорныя крумкачы", труцілі народ сьлёзацечным газам, білі дубінкамі, зьневажалі. Такое не забудзецца і не даруецца ніколі.



26 КАСТРЫЧНІКА. МЕНСК. ПЛОШЧА ЛЕНІНА.

Спробы Беларускага Народнага Фронту наладзіць кантакты з дзяржаўнымі органамі і кіраўніцтвам КПБ ні да чаго не прывялі. Камуністы прытрымліваліся сваіх традыцыйных паводзін — гаварыць адно, а рабіць іншае.

Маску з сябе партапарат скінуў увосень гэтага года, калі на пленумах гаркама і ЦК сталі адкрыта гаварыць пра БНФ як пра "наших политических противников" і заклікаць камуністаў да барацьбы з Фронтам. На кастрычніцкай сесіі Вярхоўнага Савета БССР адзін нават так сказаў: "Если нас назовут "вандеей", значит мы на правильном пути, товарищи."

Усё гэта лішні раз сьведчыць ня толькі пра антынароднасьць, адкрытую рэакцыйнасьць і нізкі інтэлектуальны патэнцыял "вандэі", пра няўменьне будаваць палітычныя перспектывы, усё гэта пацьвярджае, што кіраўнічае банкруцтва камуністычнага апарату ў Беларусі надзвычай зацягнулася і можа пагражаць народу вялікімі бедамі.

У такіх варунках стабілізацыйную ролю магла б выканаць якраз дэмакратычная апазіцыя ў КПБ — перабудовачныя сілы, сьвежыя думкі і разумныя галовы. Ды вось бяда, такіх сілаў у КП БССР практычна няма. Партыя, асабліва на правінцыі, уяўляе сабой аднародную, кансерватыўную масу, балота, няздольнае па прыродзе сваёй падняцца да асэнсаваньня лёсу беларускай нацыі і вольнай будучыні людзей.

Такое становішча вынікае ня толькі з заганнасьці і нялюдзкасьці камуністычнай ідэалогіі, але і з структуры арганізацыі партыі, пабудаванай на тыпова бюракратычным прынцыпе, калі звыш 80 працэнтаў яе членаў знаходзяцца ў ролі падаткаплацельшчыкаў на ўтрыманьне камуністычнага кіраўніцтва, якое пры жаданьні, можа сьцерці гэтага "члена" ў пыл і нідзе ніякай управы ён ня знойдзе, хіба паклаўшы сваё здароўе і дабрабыт, ды й то дарма.

У варунках, што склаліся на Беларусі, "вандэя", як і ўсюды, зацікаўленая нагнятаць раздоры, палохаць "экстрэмістамі", "нацыяналізмам", "высяленьнем" рускіх, "пагромамі" яўрэяў, "канфрантацыяй", БНФ, Талакой, Прыбалтыкай і г.д. Словам, спараджаць у грамадстве пачуцьцё трывогі і няпэўнасьці, запалохваць яго. Чаму гэта робіцца? Тут разьлік на масавую псіхалогію. Грамадства заўсёды імкнецца да стабільнасьці. Калі ж гэтая стабільнасьць парушаецца і узьнікаюць рэзкія і трывожныя дэструктыўныя працэсы, тады ў масах напалоханых, слаба палітызаваных і кепска інфармаваных людзей (асабліва ў абываццеляў) пачуцьцё самазахаваньня скіроўвае іх погляды і надзеі аб паратунку да моцнай цэнтралізаванай улады. Яны пачынаюць прагнуць "моцнай рукі", гаспадара, які б навёў парадак.

Цяпер зразумела, на што робіць разьлік "вандэя" (зрэшты, цалкам магчыма, што падсьвядома), дэзінфармуючы насельніцтва, стрымліваючы дэмакратызацыю і нагнятаючы "страхі". Як сказаў хтосьці з дасьціпных людзей: "Нацыяналізм — апошні лозунг бюракратыі".

Акрамя таго, паколькі ў руках "вандэі" знаходзіцца ўся ўлада і рэпрэсіўны апарат, яна шукае зачэпкі, каб выкарыстаць яго супроць дэмакратычных працэсаў у Беларусі, пакуль яны ня сталі ўсеагульнымі, так бы мовячы, скампраметаваць і задушыць у зародку, пакуль ёсьць сіла. Менавіта гэтымі прымітыўнымі мэтамі было выклікана нападзеньне "вандэі" на людзей 30-га кастрычніка 1988 года.

Цяпер, калі дэмакратычны рух замацаваўся, "вандэя" пачала метадычна выкарыстоўваць супроць яго сваю рэпрэсіўную машыну судоў, поўнасьцю падпарадкаваную партапарату. Тут дэманструецца ўжо нават ня тое што прававы нігілізм, а цынічна і адкрыта — фактычная адсутнасьць права, партыйна-апаратная приналежнасьць суда і пракуратуры.

Аднак, выбарчыя перспектывы ў камуністаў-наменклатуршчыкаў усё ж невялікія, бо ім, каб затрымацца ва ўладзе, увесь час прыходзіцца ашукваць народ, а людзі ўжо пачалі разьбірацца, дзе праўда, а дзе мана. Нельга сказаць, каб камуністы не разумелі, што народ ім ужо ня верыць і перастае баяцца. Нездарма яны робяць цяпер таемныя сацыялагічныя дасьледаваньні на ўсёй Беларусі, каб выпрацаваць тактыку. А тактыка будзе такая. Чакайце адкрытага, "шчырага" прызнаньня "суровай праўды", "памылак прошлага", крытыкі метадаў кіраўніцтва, самакрытыкі, нават пакаяньня; некаторыя будуць "свае ў дошку", будуць "раіцца з народам", "как вывести страну" зь цяжкага стану, будуць "канкрэтныя" "дзелавыя"прапановы як палепшыць жыцьцё, будуць "канструктыўныя" ідэі і прагнозы; асабліва шмат "дзелавых" прапаноў выкажуць па эканамічных, сацыяльных пытаньнях, не хаваючы "всей серьёзности положения". Будуць крывадушна прыносіць у ахвяру нават 6-ы артыкул Канстытуцыі. Словам, людзі павінны пераканацца, што яны, камуністы, — "адзіная рэальная сіла", здольная "кіраваць краінай" і "довести перестройку до конца".

Відаць, таму яны аб"явілі вайну Беларускаму Народнаму Фронту, які думае інакш. Гісторыя, як і грамадства, можа спакойна абыйсьціся без камуністаў, а без народа — не, бо народ гэтую гісторыю стварае. Гісторыя ж паказала, што там, дзе свабодны чалавек, там і свабодны народ — там праца, багацьце, творчасьць, хараство і жыцьцё. Там жа, дзе прайшоў бальшавік — там кроў, сьмерць, курапаты, вынішчэньне культуры, прыроды і зямлі, там брыдота запусьценьня на сьвятым месцы, бязбожжа і рабства і, самае подлае, — мора, акіяны хлусьні. Яны ўсюды аднолькавыя: ці ў СССР, ці на Кубе, у Кампучыі, ці ў Кітаі, у Карэі, ці ў Румыніі, у Польшчы, ці ў Беларусі. І грамадства, народы, павінны бараніцца ад гэтае хваробы ўсімі гуманнымі сродкамі культуры.

Сучаснаму камунізму, што генетычна напрасткі зьвязаны з бальшавізмам, прыдзецца пераасэнсаваць усю сатлелую спадчыну сваіх ідэй, калі ён сапраўды захоча нароўні існаваць у цывілізаваным дэмакратычным грамадстве. Гэтага і блізка ня можа зразумець "вандэя". Але пачынаюць разумець людзі.

Тая палітычная сітуацыя, якую стварае ў Беларусі напярэдадні выбараў камуністычная наменклатура, паставіўшы сябе асобна над усім грамадствам і ўзмацніўшы перасьлед дэмакратычных рухаў, прымушае зразумець, што Беларускі Народны Фронт павінен ажыцьцяўляць ня толькі апазіцыю апаратнаму камунізму, але падтрымліваць усе вольныя грамадскія памкненьні на шырокай дэмакратычнай аснове, уключаючы камуністаў, духавенства, самадзейныя грамадскія рухі і плыні, дэмакратычную моладзь і студэнцтва, фермераў і калгасьнікаў, дэмакратычных кандыдатаў ад кааператураў і ад рабочых калектываў дзяржаўных прадпрыемстваў, усіх здольных, сумленных, адукаваных, прафесійна падрыхтаваных і палітычна сьвядомых людзей з гуманістычным сьветапоглядам, з пачуцьцём свайго народа і Бацькаўшчыны, гатовых адстойваць суверэнітэт Беларусі, інтарэсы дэмакратыі, культуры, свабоды і сацыяльнай справядлівасьці.

За дзьвесьце гадоў імперскай няволі гісторыя ў каторы раз зноў дае нам шанц да адраджэньня і свабоды. Дае, але нічога ня дорыць. Бо воля патрабуе змаганьня.

## КУДЫ ІДУЦЬ АХВЯРАВАНЬНІ?

Паводле штотыднёвіка "Ветэран", на рахунак № 904 у Дзяржбанку СССР (адкрыты пасьля аварыі у Чарнобылі з мэтай збору ахвяраваньняў для ліквідацыі вынікаў катастрофы) па стану на пачатак лістапада мінулага года пералічана 542922662 руб. і 77 кап.

З гэтых сродкаў Беларусь атрымала 20 мільенаў руб., Украіна — 395 мільенаў руб.

65 мільенаў рублеў пералічана Міністэрству атамнай энергетыкі **... для кампенсацыі страт, якія нанесла гэта ведамства ў выніку аварыі, ім жа і данушчанай.**

**Паведаміла газэта "Савецкая моладзь" г. Рыга № 235.**

# «...ПАКРЫЙ САБОЙ НАРОДНЫ РУХ!»

## ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА СЬЦЯГА

”Які сьцяг прызнаеш над сабой, якому сьцягу верыш і молісься, што ўшаноўваеш, з чым лучыш сваю мінуўшчыну і сваю будучыню — гэта тыя пытаньні, якія нязьменна паўстаюць, калі спрабуюць наноў вызначыць шляхі нацыянальнага разьвіцьця“, — сказаў навуковец . Мы добра пазнаёміліся з аблічам аматараў руйнаваць ”до основанья“, і гэта, відаць, мела пэўнае значэньне, калі рух новага беларускага Адраджэньня адназначна выказаўся за традыцыйныя сымболі — **нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг і гістарычны герб Пагоня.**

Містычны страх бюракратыі перад сьцягам, заканадаўчы пераслед нацыянальнае сымболікі, рэпрэсіі сьцягоўнікаў лішне сьведчаць пра дакладнасьць і слушнасьць нашага выбару. **Чалавек зь бел-чырвона-белым штандарам у руках ужо трывала і нязрушна стаіць на роднай зямлі, ён урастае ў яе каранямі, падсечанымі ранейшым генэрацыям таталітарнай сякерай.** Вядома, узьняць сьцяг, прасьцей, чым вывучыць мову, спасьцігнуць таемствы нацыянальнае гісторыі і духоўнасьці. Але гэта значыць запачаткаваць працэс Адраджэньня ў сабе.

У прэсе зьявілася нямала публікацыяў пра гісторыю сьцяга, розных паводле кампэтэнтнасьці, а то і этычнага ўзроўню аўтараў. Прыкладам, спэцыяліст з геалёгіі Корзум так і не знайшоў на чорна-белых гравюрах бел-чырвона-белага сьцяга, таму ягоныя вышукі на радасьцях перадрукавала афіцыёзная прэса.

Падзялюся і я сьціплымі вынікамі пошукаў.

Вэксылялёгія (сьцягазнаўства) адрозьнівае дзяржаўную, афіцыйна ўзаконеную, і нацыянальную сымболіку. Апошнюю нельга ні ўвесьці, ні адмяніць якім-небудзь юрыдычным актам, бо яна існуе аб'ектыўна. Сьцягазнаўца К. Іваноў дае наступнае азначэньне: ”Спрадвеку складалася гама любімых народам, найбольш распаўсюджаных у народзе колераў. Гэтыя колеры былі асноўнымі ў строях, прадметах побыту... Палотнішчы нацыянальных колераў прынята называць нацыянальнымі сьцягамі“.[1] Як правіла, нацыянальныя сьцягі становяцца і дзяржаўнымі, бо нацыянальная сьвядомасьць народу заўсёды імкнецца ўвасобіцца ў сувэрэннай яго дзяржаўнасьці.

Якая ж найбольш характэрная гама беларускае вышыўкі, ткацтва? Самы распаўсюджаны колер — чырвоны (часам з чорным) на белым фоне. Гэта тычыцца мужчынскіх і жаночых строяў, ручнікоў, абрусоў з усіх рэгіёнаў Беларусі. Наяўнасьць бела-чырвонае гамы — не выпадковасьць: яна сьведчыць пра архаічнасьць традыцыйнае культуры Беларусі. Дасьледчыкі гісторыі духоўнае культуры сыходзяцца ў думцы, што проціпастаўленьне і спалучэньне белага і чырвонага — зьява, якая сягае часоў індаэўрапэйскага адзінства. Выдатны індаэўрапэіст і славіст Вяч. Ус. Іванаў сьцьвярджае: ”Індаэўрапэйская іерархічная сымболіка колераў вызначаецца суаднесенасьцю найвышэйшага (сьвятарскага) рангу зь белым колерам, наступнага па значэньні сацыяльнага рангу — ваярскага — з чырвоным колерам...“ . Роднаснае тлумачэньне геральдычных колераў захавалася ў сярэднявечнай Эўропе: белы — колер міру, чысьціні, веры; чырвоны ўвасаблае мужнасьць, агонь, у беларускай фальклёрнай традыцыі — сонца, бога Ярылу. Дарэчы будзе заўважыць папулярнасьць бела-чырвонае гамы ў гатычным дойлідстве Беларусі.

У гісторыі Беларусі гэтыя ўлюбёныя народам колеры, выяўленыя на вайсковых харугвах і штандарах, ня раз клікалі яго на абарону Бацькаўшчыны. Яшчэ ”Слова пра паход Ігараў“ сьведчыць пра чырвоны сьцяг і белую харугву. Гербам і сьцягам Вялікага княства Літоўскага — Старабеларускае дзяржавы — стала белая (срэбная) выява коньніка з узьнятым мячом (Пагоня) на чырвоным палотнішчы або шчыце. Пра паходжаньне Пагоні грунтоўна пісалі Г. Штыхаў, А. Цітоў, А. Грыцкевіч, М. Ткачоў. Зазначу, што гама гэтага старажытнага герба адлюстроўвае архаічную знакавую сістэму колераў. ”Збройнага рыцара на кані“ атаясамліваюць са сьв. Юрым — апекуном Беларусі. Ён, як і генэтычна блізкі яму сьв. Георгі-зьмеябойца зь герба Масквы, у народнай сьвядомасьці набываў рысы бога Ярылы, таму нездарма шасьціканцовы крыж на шчыце Пагоні завуць Ярылавам.

Алейная карціна ”Бітва пад Воршай 1514 г.“, якая створана, мяркуюць, удзельнікам бітвы, а захоўваецца ў варшаўскім Нацыянальным музэі, з фатаграфічнай дакладнасьцю ўзнаўляе дэталі той пераможнай бітвы зь пераважнымі сіламі маскоўскага наездцы. Кожны беларускі рыцар трымае дзіду, на канцы якое — доўгі белы сьцяжок ці вымпел з паземнаю чырвонай паласой пасярэдзіне і вэртыкальнай бліжэй да дрэўка. Гэта ня што іншае, як Крыж сьв. Юрага, мэтафара Пагоні. Падобныя сьцягі, толькі, натуральна, чорна-белыя, відаць на гравюрах з ”Кронікі“ М. Бельскага: ”Бітва пад Варнай 1444 г.“ — сьцягі і вымпелы, аналягічныя апісанаму; ”Бітва пад Абэртынам 1531 г.“ — трохпалосны сьцяг.

За Жыгімонта III Вазу афіцыйна ўздымалі чырвона-бела-чырвоны сьцяг, за Уладыслава IV — чырвона-бела-чырвона-белы (XVII ст.). Іх расфарбоўка непасрэдна вынікала з колераў дзяржаўных гербаў Кароны Польскае і Вялікага княства Літоўскага, што ўтварылі фэдэратыўную Рэч Паспалітую: белы (срэбны) арол і белая (срэбная) Пагоня на чырвоных шчытах. Правілы эўрапэйскае геральдыкі прадугледжваюць магчымасьць своеасаблівага ”перакладу“ геральдычнага сымболю з мовы гербаў на мову сьцягоў: колер эмблемы герба становіць верхні або асноўны колер сьцяга, а колер шчыта — ніжні або дадатковы колер сьцяга. (Апісаныя вышэй сьцягі ўтвораныя ”наадварот“ — паводле аўстрыйскіх правілаў).

У паўстаньнях 1794, 1830—31 і 1863—64 гадоў нацыянальная і гістарычная сымболіка набыла значэньне заклiку да свабоды, яна асьвячала барацьбу за вызваленьне з-пад акупацыі. Колішнюю — страчаную — дзяржаўнасьць і для беларусаў, і літоўцаў, і палякаў увасаблялі чырвоны зь белым. Паўстанцы Сойм прыняў 7 лютага 1831 г. ухвалу: ”Нацыянальную кукарду будуць складаць колеры гербу Кароны Польскае і Вялікага княства Літоўскага, г. зн. колер белы з чырвоным“. Вядомыя белыя кукарды-”мятлікі“ з чырвонаю перавязкай, круглыя кукарды з трох канцэнтрычных кругоў: белага, чырвонага і белага або наадварот. З 1794 г. да гэтых колераў, дзякуючы ўплыву ідэяў Францускае рэвалюцыі, сталі далучаць сіні, які пазьней памылкова (а можа, і сьвядома, каб адрозьніваць ад ”польскіх“ колераў) прыпісвалі Беларусі і Літве. Адсюль — цэшкі і штандары паўстаньняў XIX ст., дзе Пагоня — на сінім фоне.



Колеры паўстанцаў кідалі выклік чорна-жоўта-беламу сьцягу дынастыі Раманавах (як дзяржаўны сьцяг Расейскае імпэрыі ўжываўся да 1896 г.)

У XIX ст. больш-менш усталявалася традыцыя называць Беларусь яе сучасным імем (раней яна ці паасобныя землі яе зваліся Крывічы, Русь, Літва і інш.). Першая вядомая згадка пра Белую Русь сягае сярэдзіны XIII ст.: так назваў славянскія землі, што суседзілі з балцкімі, ірляндзкі місыянэр. Паходжаньне гэтага эпітэта і сёньня цьмянае: ”белы“ тлумачаць і як ”заходні“, і ”усходні“, і ”вольны“, і ”хрысьціянскі“. У кожным разе назва Беларусі ўмацавала пазыцыю белага колеру як аднаго з нацыянальных. Пасьля акупацыі Беларусі Расейскай імпэрыяй узнікла нават такое тлумачэньне колераў бела-сіне-чырвонага сьцяга імпэрыі (зацьверджаны Пятром I у 1709 г., узноўлены ў 1896, лічыцца расейскім нацыянальным): чырвоны колер, маўляў, адпавядае вялікаросам, сіні — ”малоросам“ (украінцам), а белы — беларусам. Атрымлівалася, што сьцяг узаконьваў акупацыю Беларусі і Украіны, але цікава, якія колеры лічыліся беларускімі і ўкраінскімі.

Беларускае Адраджэньне пачатку XX ст. патрабавала самавыяўленьня ў сымболіцы, і адраджэнцы, натуральна, зьвярнуліся да нацыянальных колераў і гістарычнага герба, як увасабленьняў эстэтычных ідэалаў народу і беларускае дзяржаўнасьці. Мяркую (і маё меркаваньне ўмацавалася пасьля выступу М. Сташкевіча на круглым стале ў ”Зьвязьдзе“), што сымболіку вярнулі да жыцьця знаўцы гісторыі, найперш асяродзьдзе Вацлава Ластоўскага. Натуральна, гэта адбылося і да абвяшчэньня Беларускае Народнае Рэспублікі, і да Кастрычніцкае рэвалюцыі. У 1916 годзе Пецярбурскі камітэт дапамогі пацярпелым ад вайны вывешваў на сваім будынку беларускі сьцяг . А калі Лютаўская рэвалюцыя выпляснула на вуліцы пачуцьцё трыумфу і сымболі свабоды, дык сярод апошніх знайшлося мейсца беларускім. 12 сакавіка ў Менску адбыўся ”Дзень беларускага значка“ — сьвята беларускае мовы і культуры, дзе прадаваліся і значкі адпаведных колераў. Пра сьвята шырока пісалі тагачасныя менскія газэты[2]. Вайскоўцы-беларусы на франтох Першай сусьветнай вайны надзявалі бел-чырвона-белыя стужкі, выконваючы рашэньне Рады беларускіх культурна-прасьветных гурткоў у войску ад 5 жніўня 1917 г. Старэйшая наша пісьменьніца Зоська Верас (Людвіка Войцікава) узгадвае, як яна вышывала чырвонымі ніткамі па белым лёзунг **”Нехай жыве вольная Беларусь“,** што вісеў на сцэне падчас менскага Зьезду беларускіх арганізацыяў у сакавіку 1917 г., а потым вырабляла значкі. За вясну-лета бурлівага 1917 года нацыянальныя колеры зноў занялі трывалае мейсца ў беларускай палітычнай сьвядомасьці.

Таму ня дзіўна, што прапанаваны на I Усебеларускім зьезьдзе 1917 г. праект новага — чырвона-бела-блакітнага — сьцяга ня быў ухвалены. Калі беларускі палітычны рух узьняўся да рэалізацыі ідэі незалежнасьці Бацькаўшчыны **— абвяшчэньня Беларускае Народнае Рэспублікі 9 сакавіка і прыняцьця Устаўное граматы аб яе незалежнасьці 25 сакавіка 1918 году** — праблемы выбару сымболікі не паўставала. **Кароткая і трагічная гісторыя БНР неадлучная ад бел-чырвона-белага сьцяга і герба Пагоня.**

У часы, калі ў СССР дапушчаўся пэўны ўздым нацыянальнае сьвядомасьці ”ускраінаў“, дакуль у БССР ішла ”беларусізацыя“, выкарыстаньне нацыянальных сымболяў не было крыміналам. Так, у 1926 г. у Менску адбылася надзвычай важная для нацыянальнага адраджэньня падзея — Першая Акадэмічная канфэрэнцыя на рэформе беларускага правапісу і азбукі. Сярод гасьцей з розных краін быў вялікі латыскі паэт Яніс Райніс. Вось што ён пісаў у падарожных нататках:

”Паседжаньні праходзяць у памяшканьнях клюба імя К. Маркса... У дзьвярох клюба і на лесьвіцы — віншаваньні ўдзельнікам канфэрэнцыі і замежным гасьцям: яны кідаюцца ў вочы вялізнымі чырвонымі літарамі на белым фоне. Трэба ведаць, што беларускія нацыянальныя колеры — белы і чырвоны... Пры ўваходзе ў залу кідаецца ў вочы за памостам вялікае, зь пяцьцю промнямі, сонца ў беларускіх нацыянальных фарбах... Вокны ўпрыгожаныя вялізнымі ручнікамі з чырвонымі палосамі на канцах... Уражаньне цудоўнае і ўрачыстае“[1]. Пра аздобленую белым і чырвоным залу піша і ўдзельнік Канфэрэнцыі Вацлаў Ластоўскі. У гэтай сувязі хачу зьвярнуць увагу

чытачоў на сьцьверджаньне М. Сташкевіча, супрацоўніка Інстытута Гісторыі Партыі пры ЦК КПБ, пра тое, што арганізатары Канфэрэнцыі нібыта лічылі нацыянальнымі аранжавы ды "ізумрудны" (смарагдавы) колеры і адпаведна аформілі залу. З гэта свайго сьцьверджаньня Сташкевіч робіць выснову: "...Традыцыі БНР не атрымалі распаўсюджаньня сярод беларускай грамадзкасьці ў 20-я гады". Каму верыць — Райнісу і Ластоўскаму ці Сташкевічу — хай вырашаюць чытачы.

Былі спробы скарыстаць нацыянальную сымболіку пры распрацоўцы дзяржаўнага герба БССР. 24 лістапада 1926 г. Саўнаркам БССР, разгледзеўшы пададзеныя на конкурс праекты герба, прапанаваў дапрацаваць іх, між іншым, так, каб у акаймоўцы прысутнічала бел-чырвона-белая стужка. Мастак В. Вокаў у канцы сьнежня прадставіў такі праект, але ў сакавіку наступнага года СНК ўсё ж абраў іншы варыянт.

З пачаткам масавых рэпрэсіяў супроць нацыянальнае дэмакратыі "рэпрэсаванымі" аказаліся і нацыянальныя, і гістарычныя сымболі. Купалу прымусілі напісаць ліст, дзе ён выракаўся "буржуазна-нацыяналістычнай", "ненавіснай" Пагоні. Загінулі ў засьценках ад рук людзей з чырвонымі зоркамі на цэшках арганізатары і ўдзельнікі Акадэмічнае канфэрэнцыі, якім інкрымінаваліся і колеры аздабленьня залы. Нічога дзіўнага, што нямецкія акупанты ў часе другой сусьветнай вайны, заплюшчыўшы вочы на свае сапраўдныя адносіны да беларускай сымболікі (пад Пагоняй немцаў перамаглі ў 1410 г. пры Грунвальдзе, а ў 1918 акупанты зрывалі бел-чырвона-белыя сьцягі як знакі беларускае дзяржаўнасьці), згадзіліся на яе выкарыстаньне на тэрыторыі Беларусі. За гэтым стаяў халодны палітычны разьлік: літасьціва дазволіць пэўныя праявы нацыянальна-культурнага жыцьця, каб выглядаць лепш за папярэдніх гаспадароў палітычнага становішча.

Лёс сымболікі ў гады акупацыі стаў галоўным аргумэнтам афіцыйнае прапаганды супроць яе. Але ці варта нам адмаўляцца, прыкладам, ад роднае мовы, бо на ёй гаварылі і калабаранты? Ад народных песень, бо іх зборнікі выходзілі ў акупаваным Менску? Якія ж крытэрыі анафемы?

Складанасьць пытаньня ў тым, што таталітарызм плянамерна вытручваў гістарычную памяць народаў І сёньня ня кожны, пабачыўшы Пагоню ці штандар, падумае пра грунвальдзкую славу, або мужнасьць паўстанцаў Каліноўскага, або зацятую барацьбу заходніх беларусаў супроць апалячваньня: проста таму, што чалавек можа нічога ня ведаць пра гэтыя старонкі нашай гісторыі. Трэба ж ведаць пра ўсё, і тады дылема: што пераважыць — некалькі гадоў акупацыі ці шматвяковая гісторыя народу — вырашыцца сама сабой.

У міжваенны пэрыяд нацыянальныя сымболі сталі знакамі прыналежнасьці да нацыянальна-культурнага і вызвольнага руху ў акупаванай палякамі Заходняй Беларусі. Тры паласы былі на цэшках вучняў Віленскае беларускае гімназіі, на штандарах барацьбы, у беларускіх клюбах і чытальнях можна было бачыць беларускі герб і сьцяг. Дзе-нідзе, сьвята верачы ў будучы шчасьлівы лёс узьяднанага народу, зь бел-чырвона-белымі ў верасьні 1939 г. сустракалі Чырвоную армію.

Тэма нацыянальных сымболяў трывала ўвайшла ў беларускую літаратуру. Вершы пра Пагоню, пра нацыянальны сьцяг ёсьць у М. Багдановіча, Ул. Жылкі, Ул. Караткевіча, многіх паэтаў маладзейшае генэрацыі. "Баляда пра князя" знанага паэта і песьняра Сержука Сокалава-Воюша — гэта мэтафарычнае асэнсаваньне нацыянальных колераў. Паранены князь, сарваўшы белыя павязкі з чала і ўзьняўшы іх, як штандар, павёў за сабою ваяроў,якія былі ўжо адступілі:

> Кроў лягля чырвонай паласой
> Цераз палатна сьляпучы сьнег.
> И схапіўся зноў за зборю вой,
> И чужак заснуў у кургане.

Адносіны БНФ "Адраджэньне" да афіцыйнае дзяржаўнае сымболікі БССР сфармуляваныя ў Праграме Беларускага Народнага Фронту. Я ж дазволю выказацца асабіста. Вэксылёлягі з Латвіі П. і М. Цюрыны слушна заўважылі: "...Ступень "патэнтнай чысьціні" дзяржаўных сымболяў адлюстроўвае і дэкляруе ўзровень самастойнасьці і незалежнасьці самой дзяржавы" . Сьцяг БССР ад пачатку ствараўся як знак мінімальнага ўзроўню ці нават адсутнасьці якой бы ні было самастойнасьці гэтага ўтварэньня. Яго чырвань розьнілася ад чырвані іншых сьцягоў адно літарамі ССРБ або БССР. Паваенная сытуацыя вымусіла сталінскі рэжым заняцца падфарбоўкай фасадаў "сувэрэнных" рэспублік у прапагандысцкіх і непасрэдна-практычных мэтах: увесьці паболей рэспублік у ААН дзеля лішніх галасоў. У канстытуцыі рэспублік быў фармальна вернуты пункт пра нацыянальныя вайсковыя злучэньні, а ў пачатку пяцідзясятых распачалася кампанія стварэньня новых афіцыйных сьцягоў. Да чырвонага палотнішча зь сярпом, молатам і пэнтаграмай далучалі каляровую палоску. Прычым цікава, што палоска, дараваная Грузіі, — блакітная, Латвіі — сіняя, хоць такіх колераў няма на нацыянальных сьцягах гэтых народаў. Зялёнага колеру пашкадавалі для мусульманскіх народаў (толькі таджыкам далі вузенечкі зялёны пасак), затое зялініну ўпершыно ў сваёй гісторыі атрымалі Беларусь, Малдавія і Карэла-Фіншчына.

Новы сьцяг БССР быў прыняты 25 сьнежня 1951 г. Яго распрацоўка, мусіць, разглядалася як заданьне асаблівай сакрэтнасьці, інакш чым растлумачыць, што, як сьведчыць А. Міхальчанка, "Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР у 1951 годзе, калі быў аб'яўлены конкурс на новы флаг, апрача ўказа, у архівах нічога не пакінуў" ? Міхальчанка адшукаў імя аўтара сьцяга — Гусеў М. І.: "як жывапісец, ён мала вядомы" . Анэгдатычную няпэўнасьць геральдычнага статусу новых сьцягоў трапна заўважыў згаданы геральдыст К. Іваноў: "Афіцыйныя дакумэнты, якія б тлумачылі сымболіку расфарбоўкі новых сьцягоў, ня выдадзены" . Мастакі і колеразнаўцы добра ведаюць пра ўражаньне цяжкасьці, змрочнасьці, якое можа пакідаць спалучэньне чырвонага і зялёнага. Сьцяг БССР парушае правілы эўрапэйскае геральдыкі, якія забараняюць непасрэдна спалучаць паміж сабой г. зв. эмалі (сіні, чырвоны, чорны, зялёны колеры). Эмалі могуць суседзіць толькі з г. зв. мэталямі (срэбрам — белым і золатам — жоўтым). Ён блізкі па гаме да афрыканскіх сьцягоў, асабліва да сьцяга Сэйшельскіх астравоў. Беларускі ж арнамэнт, хоць і нацыянальных колераў, ніколі на сьцягах ня быў і не для сьцягоў прызначаўся.

Сьцяг, стварэньне якога ўкараноўвае пэрыяд таталітарнага сталінізму, які ігнаруе нацыянальныя геральдычныя традыцыі і сьведчыць пра адсутнасьць сувэрэнітэту Беларусі, — не здабыў агульнанароднае сымпатыі і пазбаўлены гістарычнае пэрспэктывы. Аднак ставіць пытаньне пра абвяшчэньне нашага нацыянальнага сьцяга дзяржаўным сымболем можна будзе толькі тады, калі дэмакратыя на нашай Бацькаўшчыне зробіць адчувальны крок наперад, калі Беларусь стане на шлях аднаўленьня сувэрэнітэту; тады, калі беларуская дзяржава стане вартая гэтага сьцягу. І спраўдзіцца прароцтва нашага нацыянальнага гімна (аўтар верша Краўцоў Макар):

ХАЙ АДЖЫВЕ ЗАКАМЯНЕЛЫ
НАШ БЕЛАРУСКІ ВОЛЬНЫ ДУХ,
ШТАНДАР НАШ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ,
ПАКРЫЙ САБОЙ НАРОДЫХ РУХ!

*ВІНЦУК ВЯЧОРКА*



## НАДЗЕЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!



## "ПАГОНЯ"

(Максім Багдановіч).

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За Краіну радзімую жах.
Успомню Вострую Браму Сьвятую
І ваякаў на грозных канях.

Ў белай пене праносяцца коні,
Рвуцца, ймкнуцца і цяжка хрыпяць:
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць.

У бязьмежную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.
Вы за кім у пагоню сьпяшыце?
Дзе шляхі Вашы йдуць і куды?

Мо' яны, Беларусь, панясьліся
За Тваімі дзяцьмі уздагон,
Што забылі Цябе, адракліся.
Прадалі, і аддалі ў палон?

Біцце ў сэрцы іх, — біцце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці Краіна,
Ня усьцішыцца гэтакі боль!...
Ты прабач, Ты прыймі свайго сына.
За Цябе яму ўмерці дазволь!



## БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ГІМН

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны родны свой прастор,
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор,
дамо адпор.

Няхай жыве магутны, сьмелы
Наш беларускі родны дух,
родны дух,
Штандар наш бел-чырвона-белы
Пакрый сабой народны рух.

На бой за шчасьце і за волю
Народу слаўнага свайго,
Браты, цярпелі мы даволі
На бой усе да аднаго,
да аднаго.

Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й бачыць той,
Хто сьмее нам нясьці прымусы
І першы выкліча на бой!

Браты да шчасьця мы падходзім,
Хай гром грыміць яшчэ мацней,
Ў крывавых муках мы народзім,
Жыцьцё Бацькоўшчыны сваёй,
жыцьцё Бацькоўшчыны сваёй!

# БЕЛАРУСАМ НА ЎСІМ СЬВЕЦЕ ЖАДАЕМ ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ.

## Жыве Беларусь!



## ЗЬНІЧ

БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ ПАЭТ

### ПРАСПЕКТ МАШЭРАВА, 25 ЖНІЎНЯ 1987 Г.

(Тунэль ля кнігарні "СЬВЕТАЧ".)

Пад "Машэравым", быццам нанова
партызанская ідзе вайна,
"Беларусы, дзе ваша мова?..." —
патаемна пытае сьцяна.

Ад сьвітанку — ажно да поўдня
тыя словы гарэлі ў вачах.
Беларусы, можа ня позна?...
мо' сьвяты агонь не ачах?...

Як жа ж шкрэблі іх адмыслова!...
Эх, бабулі, — не ваша віна...
Беларусы, дзе ваша мова?...
...зноў чарнее нямая сьцяна.

* *

### СТАЛІЦА

Дзякуй Богу, што Вільню забралі.
Бо — каб нашай сталіцай была —
у магілах бы Храмы ляжалі
на пагосьце бетону і шкла.

Толькі й страціўшы сьвет не скарыцца
мой народ. Як шляхотны Кастусь.
Там нашчадкаў Скарыны сталіца,
дзе духоўна
Жыве Беларусь!

# ЗВАРОТ

## ДА БЕЛАРУСАЎ, ШТО ЖЫВУЦЬ У ЭСТОНІІ

Паважаныя суайчыньнікі! Наша дарагая Бацькаўшчына Беларусь у няшчасьці. Тры гады кіраўніцтва рэспублікі і Масква хавалі ад народа вынікі Чарнобыльскай аварыі на Беларусі. Цяпер, калі пачалі хварэць нашыя людзі, нашыя дзеці, калі з разьвіцьцём грамадскага руху рэспубліканскае і саюзнае кіраўніцтва вымушаны былі адкрываць сакрэт за сакрэтам, таямніцу за таямніцай, высьветлілася, што Чарнобыльская бяда абарочваецца для нас нацыянальнай катастрофай, заўчаснымі сьмерцямі, непаўнацэннымі дзецьмі, хваробамі народа, трывожнай будучыняй. Наша мілая зямля — радыёактыўная. На ёй безьліч прыгожых мясьцін, але людзям у іх ужо нельга жыць.

Другое, што высьветлілася цяпер. Нам, беларусам, не дапамогуць, бо не хочуць пасапраўднаму дапамагаць — ні саюзныя акадэміі, ні медыцынскія ведамствы, ні кіраўніцтва. Надзея на нас саміх. Нам не хочуць нават кампенсаваць належныя нам мільярды рублёў на высяленьне з абжытых мясьцін, за гора, за няшчасьце, у якім мы не вінаватыя. Нам не дапаможа ніякое ведамства з-за мяжы, бо высьветлілася, што і савецкая і і міжнародная так званая атамная грамадскасьць глядзіць на нашу Зямлю як на ўнікальны палігон для радыяцыйных выпрабаваньняў над людзьмі. Таму, напэўна, і хавалася праўда ад сьвету.

Чаму так сталася? Чаму на трагедыю культурнай Арменіі адгукнуўся ўвесь сьвет, а пра трагедыю для пакаленьняў у Беларусі тры гады ня ведаў ніхто? А таму, што за дзесяцігодзьдзі таталітарнай сістэмы, за дзесяцігодзьдзі вынішчэньня нашай культуры і мовы, нашае гісторыі і нацыянальнае годнасьці мы сталі забывацца, што мы нацыя, што мы народ, мы перасталі шанаваць сябе. Губляючы нацыянальныя здабыткі, мы страчвалі нацыянальную сьвядомасьць, а таму страцілі аснову для народнай кансалідацыі перад катастрофай, перад несправядлівасьцю, якая датычыць усіх нас. Бюракраты зручна ператвараць народы ў натоўпы. Лягчэй кіраваць.

Перад аблічам народнай бяды тыя, хто жывуць на Беларусі, і тыя, хто за яе межамі, — успомнім жа ў гэты трагічны час пра вялікі, жыццядайны, Боскі сэнс для ўсіх нас нашае роднае беларускае мовы, нашай нацыянальнай гісторыі і спадчыны, нашых народных традыцый веры і культуры, этыкі і маралі, зразумеем жа, зьвернемся да іх і палюбім. Гэта зробіць нас духоўна здаровым народам, здольным глядзець у будучыню. Гэта адкрые ў нас дар разумець і шанаваць іншыя народы, калі жыць сярод іх нам выпадзе лёс. І не зьдзівімся, калі палюбіўшы Беларусь, мы палюбім Эстонію. У нас расплюшчацца вочы і ні рука, ні язык, не накінецца на сьвятое. Мы паставім у думках сябе на іх месца і зразумеем, што і справядлівасьць, і права, і праўда за імі. Мы падзівімся іх мужнасьці і культуры, творчасьці і мэтанакіраванасьці. І захочам дапамагчы ім, бо, калі такі маленькі народ можа быць такім вялікім, то хіба ж не можам палепшыцца й мы ў сваей Беларусі!

Самае страшнае, што выгадавала адміністрацыйна-бюракратычная сістэма ў нашым грамадстве, гэта нацыянальны нігілізм — непавагу да свайго народа, мовы і нацыянальных каштоўнасьцяў. І такі ўжо закон, што той, хто не хоча шанаваць сваё, не шануе й чужое. Менавіта на такой псіхалогіі заснаваныя антыэстонскія настроі ў рэспубліцы, дзе Вы жывяцё. Будзем жа вышэйшыя за бытавыя крыўды, памятаючы, што ў эстонскага народа ў Эстоніі, як і ў нашага на Беларусі — свой лёс. І ніхто гэты лёс не вырашыць за іх у Эстоніі, а за нас — у Беларусі. Нам будзе вельмі балюча (і не толькі нам, але і нашай гісторыі), калі беларусы ў Эстоніі пакіруюцца сабой неразважліва, паддадуцца на авантуры, на антыэстонскую агітацыю.

Жывучы зь іншым народам, на яго зямлі, нельга не ведаць яго мовы, не цікавіцца яго жыцьцём, нельга не дапамагаць яму ў цяжкі час. Можа праз спагаду і інтэрас да эстонца-суседа вернуцца да нас сьветлыя думкі і вобразы нашай дарагой і рядыяактыўнай цяпер Зямлі. Дык падумаем жа пра яе. ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ! ELAGU EESTI!

Кіраўніцтва Беларускага
Народнага Фронту "Адраджэньне",
г. Менск.

ГРУНВАЛЬД

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ БЕЛАРУСКАГА КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА "ГРУНВАЛЬД".

НАШ АДРАС: 200090 ЭСТОНІЯ. ТАЛІН. Аб./Скр. 3290.

РЭДАКТАР — Валеры Чыжык

Выходзіць 2 разы на месяц.

Друкарня "Октообер". Зак. 140. Наклад 25 тыс.

Меркаваньне аўтараў публікаваных матэрыялаў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі.

Кошт у Эстоніі — 30 кап.
За межамі Эстоніі — 50 кап.